№ 1 (55) Аўторак, 13-га Студня 1925 г. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар.— 5 гр.



## Трэба паправіць памылку.

Чытачы нашыя даведаюцца са шпальтаў гэтага нумару аб тым, што ў першыя дні бягучага году ў Варшаву мусела выехаць дэлегацыя ад Беларускага Таварыства „Прасьвета", дзеля таго, каб дамагацца адчыненьня курсаў для беларусаў-настаўнікаў у Вільні, а ня ў Быдгошчы, як гэта замервалася зрабіць Міністэрства Прасьветы Польскае Рэспублікі.

Віце-старшыня Польскага Ураду п. Тугут заявіў у гутарцы з супрацоўнікам „Robotnika", што ён лічыць падобны проект адчыненьня курсаў у Быдгошчы за „zły pomysł".

Мы сказалі-б што гэта нешта большае. Калі Урад шчыра думае аб праведзеньні ў жыцьцё закону аб матчынай мове ў школе, калі разумее, што ў аднаклясовым, істнуючым у нас, тыпе пачатковае беларускае школы настаўніку прыдзецца вясьці выкладаньне пабеларуску і быць знаёмым з дзяржаўнаю моваю, як прадметам абавязковым, дык да справы дашкаленьня гэткага настаўніка трэба падыйсьці зусім проста. Трэба даць настаўніку неабходную для яго веду, як з паляністыкі, так і з беларусазнаўства. Бо скуль-жа, прайшоўшы расейскую падгатоўку да настаўніцкае працы, самы сьвядомы настаўнік-беларус можа справіцца з беларускімі выкладамі бяз пэўнае да іх падгатоўкі? Ці-ж зможа ён слухаць беларусазнаўства недзе ў Быдгошчы на *Заходніх Крэсах* Польшчы, дзе аб лектарскіх беларускіх сілах ня можа быць ніякае гутаркі?

Ясна, што прайшоўшы чыста-польскія курсы ў Быдгошчы, беларус-настаўнік мог-бы быць больш-менш здольным да працы ў школе таксама польскай, а для працы ў беларускай школе, ці ў горшым выпадку ў двумоўнай польска-беларускай, яму тутака ў нас не хапала-б таго, чаго ён у праклятыя часы маскалізацыі краю нідзе ня мог навучыцца. Грэх, які даканала гісторыя над беларускім народам, дасюль яшчэ нашым настаўніцтвам моцна адчуваецца, некаторым мужыцкім дзецям была царскаю школаю выдрана з душы матчына мова.

І калі настаўнік беларускі, які ў большасьці цяпер пакутуе, як безработны або як земляроб на зруйнованай войнамі й рэвалюцыяй бацькаўскай ральлі, хоча заняцца сваею прывычнаю настаўніцкаю працаю сярод роднага народу ў варунках саўсім новых, дык ці-ж дзеля гэтага ён ня можа адтрымаць таго, чаго ў яго ведзе не хапае, на месцы ў сваім-жа родным краі, дзе шмат лягчэй яму адначасна праслухаць неабходны курс беларусазнаўства побач з паляністыкай?

Арганізованае настаўніцтва ніколі не згадзілася-б пайсьці на курсы чыста-польскія ў Быдгошч, калі-б адчыніць мяшаныя курсы ў Вільні яму было адмоўлена па тэй толькі прычыне, што ў Быдгошчы знойдзена ўжо памешканьне для курсаў, а ў Вільні яго як быццам і няма. А якраз брак у Вільні адпаведнага памешканьня для курсаў Міністэрства Прасьветы й Рэлігіяў лічыла прычынаю немагчымасьці адчыненьня курсаў тутака.

Гэткае тлумачэньне справы, як і самы проект адчыненьня курсаў для нашых настаўнікаў у Быдгошчы мы лічым за саўсім лішнюю памылку прасьветных уладаў і маем надзею, што яе паправіць яшчэ ня позна, а дзеля гэтага яна павінна быць папраўлена.

Замест таго, каб асобна зьбіраць настаўнікаў-беларусаў на чыста-польскія курсы, а затым тварыць для іх яшчэ асобна курсы беларусазнаўства, куды лягчэй і практычней выкваліфікаваць іх для працы ў новых для іх варунках адначасна, з меншаю затратаю коштаў і часу.

Калі-ж польскі ўрад ня думае аб беларускай падгатоўцы беларусаў-настаўнікаў, калі не бярэ пад увагу нашай гісторыі, дык нашто-ж тады й агарод гарадзіць? Нашто-ж пісаліся законы аб праве на родную мову?

Вось якія пытаньні нявольна вырастуць сярод беларускага настаўніцтва, пытаньні, якія перакінуцца і ў сьвядомасьць шырокіх народных масаў. А процi гэткае сьвядомасьці масаў не пайдзе ніводная беларуская прасьветная арганізацыя.

У інтарэсах вялікае прасьветнае справы памылка з вызначэньнем месца курсаў для нашых настаўнікаў павінна быць папраўлена.

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць напісьменнаму!*

## Палітычны агляд.

Канец мінулага году азначыўся крутою зьменаю пазыцыі саюзьнікаў у адносінах да Нямеччыны і Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік. Гэткім чынам саўсім зьвялася на нішто праца Макдональда і Эрыё, якія лятуцелі насадзіць у Эўропе мір пры ўспамаганьні Нямеччыны і навет бальшавікоў. Калі надыйшоў новы год, дык паўстаў новы конфлікт паміж Нямеччынай і саюзьнікамі, які набірае вельмі сур'ёзнае формы і зробіць свой уплыў на ўсю далейшую эўропэйскую палітыку. Конфлікт гэты мае тым большае значэньне, што ўва ўсёй Эўропе пачалася агульная антыбальшавіцкая дзеяльнасьць у зьвязку з рашучаю атакаю бальшавікоў дый яшчэ тамy, што саюзьнікі сур'ёзна заняты справамі на Далёкім і Блізкім Усходзе і ў Паўночнай Афрыцы. Раней дапушчалі, што саюзьнікі могуць мець вольныя рукі ў колёніях дзеля таго, што прымірыліся з Нямеччынай, але гэткі пагляд аказаўся памылковым. Падрыўны матар'ял ня толькі не скасованы ў Эўропе, але набраўся яшчэ ў большай меры і можа ўзарвацца ў кожны момэнт.

Новы конфлікт паміж Нямеччынай і саюзьнікамі крыецца вось у чым: Пасьля вэрсальскага міру саюзьнікі, як ведома, дзеля забясьпечаньня сваіх граніцаў ад Нямеччыны занялі важнейшыя апорныя пункты ўдоўж р. Рэйну. Да гэткіх апорных пунктаў належаць і перадмостныя ўзмацненьні ў Кэльне, якія на аснове Вэрсальскага трактату павінны былі быць ачышчаны саюзьнікамі цераз 5 гадоў у тым выпадку, калі немцы выпаўняць усе варункі, якія датычаць раззбраеньня. Эвакуацыя Кэльненскае паласы павінна была адбыцца перад 10 студня 1925 г. Тымчасам аказалася, што ангельцы, якія займаюць Кэльненскую паласу, адмовіліся эвакуаваць Кэльн на тэй аснове, што немцы ня выпаўнілі варункаў вэрсальскага трактату, датычна раззбраеньняў. Устанавіла ўхіляньні Нямеччыны ад выпаўненьня абавязаньняў у сэнсе аззбройваньня міжсаюзная кантрольная камісія, зрабіўшая падробны рапарт Радзе Паслоў аб палажэньні нямецкіх аззбраеньняў. На грунце гэтага рапарту складзена нота саюзьнікаў, ужо высланая немцам, у якой матывуюцца прычыны адмовы саюзь-

нікаў ад эвакуацыі Кэльненскае паласы.

Зьмест ноты саюзьнікаў да Нямеччыны яшчэ невядомы. Але аб палажэньні нямецкіх азбраеньняў, выходзячых далёка за межы, устаноўленыя вэрсальскім трактатам, дае дэтальны абраз у сваім артыкуле, зьмешчаным у ангельскай прэсе, ангельскі прадстаўнік у міжсаюзнай ваенна-кантрольнай камісіі гэнэрал Морган, які падчас свае працы меў магчымасьць асабіста пераканацца. Перад тым, як закрануць артыкул гэн. Моргана, трэба зазначыць, што на аснове вэрсальскага трактату збройныя сілы Нямеччыны не павінны перавышаць 100 000 чалавек. Затым ваенна-марскі флёт, паветраны, сухапутнае азбраеньне — усё было зьніштана проста альбо праз падзел паміж саюзьнікамі. Пасьля міру немцы выдалі саюзьнікам 5,891,015 стрэльбаў, 62.710 гарматаў і гарматных руляў, 131.230 кулямётаў, 28 тыс. 469 мінакідаў, 38 міл. 750.000 гарматных куляў, 16.500 000 ручных гранатаў, 335 тоннаў (тонна—61 пуд) гільзаў для гарматных куляў, 457 мільёнаў вінтовачных куляў, 14.828 аэропляна ў і 27.740 мотораў ад аэропляпаў. Апрача таго блізу што ўвесь ваенны флёт, займаўшы першае месца пасьля велікабрытанскага, быў падзелены паміж усімі пераможцамі. Ад гандлёвага флёту Нямеччыны, займаўшага таксама другое месца пасьля Англіі і дасягаўшага 5-х мільёнаў тонаў вадазьмяшчэньня, засталося 654.000 тоннаў. Каля 10.000 лепшых паравозаў і больш як 100.000 таварных і пасажырскіх вагонаў было забрана, як адшкадаваньне і падзелена паміж Францыяй, Бэльгіяй, Італіяй, Чэхаславакіяй, Югаславіяй, Польшчай і Румыніяй. Фабрыкі, вырабляўшыя ваенныя рэчы, павінны былі або закрыцца або спыніць далейшы вытвар ваеннага матар'ялу. Гэтак было зроблена матар'яльнае раззбраеньне Нямеччыны, якая вяла вайну блізу што са ўсім сьветам. За тым, каб яна не магла далей азбройвацца, павінна была сачыць асобная саюзьніцкая кантрольная камісія, на чале якой да траўня мінулага году стаяў цяперашні францускі міністар гэн. Нольле і ў складзе якой быў таксама ангельскі гэн. Морган, які выступіў цяпер з артыкулам аб нямецкай ваеннай небясьпецы. Справа ў тым, што немцы блізу што з першых-жа дзён зараз-жа пасьля міру, ў якім яны расчараваліся, пачалі новае азбройваньне на сухапуці, на моры і ў паветры, рыхтуючыся да новае вайны. Уся гэтая падрыхтоўка рабілася і робіцца тайна. Праца кантрольнае саюзьніцкае камісіі на кожным кроку затруднялася. Ей не давалі магчымасьці кантраляваць асабовы склад арміі і азбраеньне. А пасьля, калі быў окупованы Рурскі басэйн Францыяй і былі навет перарваны дыплёматычныя зносіны паміж Бэрлінам, Парыжам і Брусэлем, ваенны кантроль Нямеччыны быў саўсім скасованы. І гэткаю свабодаю немцы карысталіся цэлы год, пачынаючы з паловы студня пазалеташняга году аж да паловы леташняга году. За гэты пэрыяд бескантрольнае, кіпучае дзейнасьці немцы падрыхтавалі сваю армію блізу што да нормаў даваеннага часу.

Як піша гэн Морган, нямецкая армія ў 1922 г. мела, пры асабовай сваёй лічбеннасьці ў 100.000 чалавек, як гэтага вымагае вэрсальскі трактат, — 35.000 падафіцэраў, г. зн. у тры разы болей, як трэба. Гэта паказвае, што цяперашняя дзейная армія ў Нямеччыне служыць толькі кадраю дзеля падрыхтаваньня арміі на выпадак вайны. Ваенны бюд'жэт паказвае што ў сапраўднасьці ўтрымліваецца армія ў тры разы большая за устаноўленую міравым трактатам, г. зн. ня меншая за 300.000. Апрача таго немцы ўтрымліваюць паліцыю на ваенным палажэньні, якая комплектуецца блізу што выняткова з былых афіцэраў і падафіцэраў. Сіла паліцыі дасягае 150 000 Яна разам з арміяй (рэйхсвэрам) адбывае ўсе манэўры і ваенныя муштры. Гэткім чынам, як думае гэн. Морган, лічбенны склад нямецкае арміі дасягае ня менш, як 500.000 чалавек, пры чым гэта найлепшая афіцэрская і падафіцэрская кадра, якая ў выпадку вайны можа разьвіцца ў 5-мільённую армію. Ведама, што гэта цыфра вельмі паважная, калі ўзяць пад увагу, што пасьля вайны арміі ўва ўсіх дзяржавах моцна зьменшаны. Француская армія не перавышае 600.000 чалавек, польская — 250.000, а нямецкая перад вайною даходзіла да 850.000. Цераз гэту армію праходзіць уся моладзь мужчынскага полу. Па-за гэтым усё нямецкае насяленьне праходзіць ваенную муштру ў характары ўсялякіх спортыўных таварыстваў, усе студэнты вышэйшых школаў не дапушчаюцца навет да выпускных экзаменаў, калі ня зложаць адпаведных пасьведчаньняў аб ваеннай падгатоўцы. Усё нямецкае насяленьне падрыхтована да вайны, толькі трэба яго мобілізаваць і даць у рукі зброю. Аб гэтым клапоціцца ваеннае міністэрства і гэнэральны штаб, які застаўся ў тым самым складзе, ў якім быў падчас вайны. Усе ваенныя школы і акадэміі істнуюць сабе далей у тэй самай постаці, ў якой істнавалі і да вайны. Такім чынам, жывы склад нямецкае арміі можна лічыць саўсім падрыхтованым да новае вайны, калі ўзяць пад увагу высокую ступень адукацыі нямецкага народу і яго бязьмежную любасьць да роднага краю. У гэткай-жа самай меры падрыхтована і матар'яльная часьць нямецкае арміі. Перш за ўсё беззадольнасьць арміі азначаецца ступеньню прамысловага разьвіцьця данае дзяржавы. У гэтым сэнсе Нямеччына займае блізу што першае месца ў сьвеце і конкуруе толькі з Амэрыкай і Англіяй. Фабрыкі й заводы яе не пацярпелі падчас вайны, якая ўвесь час ішла на чужой тэрыторыі. Немцы ўжо пасьпелі папоўніць і адбудаваць увесь чугуначны рух, вытварыўшы, ў працягу трох гадоў пасьля вайны, больш як 18.000 новых паравозаў і больш як 150.000 вагонаў. Гандлёвы флёт, займаўшы ў 1914 г. другое месца і дасягаўшы ў чэрвені 1921 г. толькі 654.000 тоннаў, у чэрвені 1923 г. ужо дасягнуў 2.496.000 тоннаў, г. зн. ў працягу двох гадоў быў павялічаны ў 5 разоў. У 1914 г. немцы займалі па велічыні свайго гандлёвага флёту другое месца, ў 1920 г. былі адсунены на 14 месца, а ў 1923 г. ужо занялі 5 месца. Невядома наколькі пасунуліся за апошніх 1½ году. Магчыма, што ўжо займаюць 4 калі ня 3-е месца. У гэтай самай ступені пасоўваецца справа нямецкага паветраплаваньня, якое будзе мець рашучае значэньне ў будучай вайне. Апрача шмат якіх фабрык, што вытвараюць, пакуль што, праўда, гэтак зван. «спортыўныя» аэропляны, якія лёгка могуць быць, нарыхтованы для ваенных мэтаў, немцы маюць уласныя фабрыкі ваенных аэропланаў за граніцай: Фокэра ў Галяндыі, Дортэра ў Швэцыі, Юнкэра, Альбатроса і Дартэ ў С. С. Р. Р. Ня трэба яшчэ запамінаць, што Нямеччына займае першае месца па хімічным вытвары. А атрутным газам у будучай вайне адводзіцца першае месца. Калі да ўсяго сказанага дадаць, што з гэткаю самаю пасьпешнасьцю рыхтуецца да вайны й С.С.Р.Р., якога ніхто не кантралюе і які знаходзіцца ў саюзе з Нямеччынай, тады зробіцца яснаю тая ваенная небясьпека ў Эўропе, якую выяўляе сабою Нямеччына з бальшавікамі. *N.*

## Дэлегацыя ад Т-ва „Прасьвета" ў Варшаве.

У зьвязку са зьмешчаным у „Robotniku" (за 31 сьнежня 1924 г.) інтэрвью супрацоўніка гэтае газэты з віцэ-прэм'ерам п. Тугутам, у якім п. міністар заявіў, што курсы для настаўнікаў-беларусаў у Быдгошчы ён лічыць за „благую думку" (zły pomysł), 1-га гэтага студня ў Варшаву выехала беларуская дэлегацыя ў складзе старшыні Беларускага Таварыства „Прасьвета" грам. М. Косьцевіча і віцэ-старшыні Час. Беларускае Рады грам. В. Шышкова, каб дамагацца ад Польскага Ураду стварэньня настаўніцкіх курсаў у Вільні, згодна з пастановай аб гэтай справе 1-га зьезду настаўнікаў-беларусаў з сярэдніх і пачатковых школаў, які адбыўся ў Вільні 18 і 19 сьнежня 1924 г.

3 студня 1925 году а 12 гадз. дэлегацыя была прынята бышым Дэлегатам Ураду на Віленшчыну, а цяпер старшынёй камісіі, якая разьбірае істнуючыя на *Крэсах* законы, п. В. Романам. Дэлегацыя прадставіла п. Роману мотывы, чаму беларускія

## Чараўнік.

Марцін Дзюбка быў чыноўнікам Полацкага тэлеграфу.

Ведома, як кавалер, ды малады, (гадоў 22) меў ахвоту да музыкі — і браў лекцыі ад арганістага на аргане; меў ахвоту да таёмных навук — і выпісаў «Поўны Курс Гіпнотызму», ці йначай кажучы «Як змусіць палюбіць сябе»; меў ахвоту да дзяўчатак — хадзіў штодня да Юзі, і там адбываў колькі гадзін.

Нанімаў у Бязьлепкавых адзін пакоік. Праз кардонную загарадку жылі: Сам Бязьлепка, лысы старык, мала бываючы дома, і Бязьлепкава жонка, маладая, але худая... толькі вочы былі прыгожыя і блішчэлі, як у ката.

Колькі месяцаў ужо ад'жыў Марцін на гэтай кватэры.

З гаспадыняй ладзілі (толькі Бязьлепкава мела за зло яму, што мала аддаваў ёй часу, а бегаў да панны Юзі). — Затое зайздравала і чапілася.

Ен не зьвяртаў увагі.

Кніжкі аб гіпнотызьме чытаў, замкнуўшы ўперад пакоік — і, хоць пасьля Бязьлепчыха праз шчэлкі пазірала на яго, ён сьмела прынімаўся рабіць «практыкі».

Прачытаўшы навуку, як і што належыць рабіць, браў бутэльку, наліваў вады ў яе, і глядзячы нярухома, ня міргаючы вачмі, на бліскучае месца шаптаў: — Ты мяне палюбіш... Нізашто не адкажаш... Нікуды ня скрыешся... Ты палюбіш!

Страх хапаў Бязьлепчыху за душу... Паціху адсувалася ад шчэлкі, крыжуючыся набожна...

— Можа заклінае гэдак мяне? — шаптала і забіралася ў цямнейшы кут.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Напрактыкаваўшыся, як нічога ніколі нікага ня было, Марцін выходзіў да места.

Прагавіта тады Бязьлепчыха, увайшоўшы да пакоіку, адчыняла скрынку і знаходзіла «таёмныя кніжкі»...

«Спаліць іх: тут нячыстая сіла ўмешана!» — казала сэрца; розум тлумачыў: «Нельга, кніжкі чужыя... ня твой інтэрас»... і выходзіла яшчэ больш неспакойнаю... «Чараўнік ён!...»

Аднаго дня ўвечары Марцін шпарка прайшоў з падворку, праз хату да свайго пакоіку, трымаючы ў руках нешта завернутае ў паперу і зашчапіў за сабой дзьверы...

Бязьлепчыха не сьцярпела: — Досіць ужо гэтых выдумак, пане Марцін! Што вы за прыладу патаемна панясьлі?!

Марцін быў скрытным... — Гэта вас ня тычыцца, пані гаспадыня!

— Чараўнікоў мне ня трэба! Досіць мне імглу ў вочы пушчаць!

— Не гаманеце зашмат, Бязьлепчыха, ўсьціхамірцеся!.. а то!..

— Вон з хаты, чараўнік! каб сьледу ня было! Водзішся з нячыстай сілай! З гэтага дня няма вам кватэры!

Была заядлая і гарачая бяз меры (муж быў стары, дык сілы зашмат у яе было). Марцін разгнявіўся:

— Што? што вы брахнулі?!

— А тое, што вон з хаты, нячыстая сіла!

— Марцін з сілай адшчапіў дзьверы і падскочыў да яе.

— Маўчы, калі... бо запраўды... аж чэрці возьмуць цябе адсюль!

Чуць-чуць стрымаўся каб ня даць пад бок...

— Чарцей, знацца, напусьціце?

— Калі страчу цярплівасьць, дык і напушчу — каб я жыў!!!

арганізацыі дамагаюцца утварэньня курсаў у Вільні.

Важнейшаю прычынаю выстаўлялася тое, што ў Выдгошчы курсы могуць быць толькі польскія, бо перакінуць туды якія-нібудзь лектарскія беларускія сілы ніяк немагчыма, ў той час, як у Вільні настаўнікі могуць адначасна праслухаць патрэбны ім курс беларусазнаўства, каб быць гатовымі да свае працы ў беларускіх школах, прадбачаных законам 31 ліпня 1924 году аб арганізацыі школьніцтва.

Выслухаўшы дэлегацыю п. Роман, абяцаў падтрымаць пажаданьні зьезду перад Польскім Урадам. У той-жа дзень грамадзяне Косьцевіч і Шышкоў былі прыняты а 5½ гадз. ўвечары віцэ-старшынёй Рады Міністраў п. Тугутам, якому злажылі ад імя Т-ва мэмарыял, дамагаючыся стварэньня курсаў у Вільні. Міністар Тугут у адказе на постуляты, выстаўленыя дэлегацыяй, падкрэсьліў, што ён сам зьвяўляецца праціўнікам курсаў у Быдгошчы і абяцаў гэтую справу ізноў паставіць на парадку дня пасяджаньня Палітычнага Камітэту Рады Міністраў.

5-га сьнежня дэлегацыя была прынята Міністрам Прасьветы п. Завіцкім і Дырэктарам Дэпартамэнту Пачатковых Школаў п. Жлобіцкім, у якіх дамагалася таксама утварэньня курсаў у Вільні.

7-га сьнежня віцэ-старшыня Рады Міністраў п. Тугут паехаў да Міністра Прасьветы, з якім гутарыў аб беларускіх настаўніцкіх курсах. У гэтыжа дзень увечары дэлегацыя выехала ў Вільню.

8-га сьнежня п. Шышкоў і віцэ-старшыня Цэнтральнае Рады Т-ва „Прасьвета" п. Більдзюкевіч былі ў Куратара Віленскага Вучэбнага Вокругу п. Гонсіороўскага, які ў гэты дзень выяжджаў у Варшаву. П. Куратар абяцаў таксама дамагацца утварэньня настаўніцкіх курсаў у Вільні.

Улады тлумачаць свой замер адчыніць курсы ў Быдгошчы толькі таму, што там ёсьць найвыгаднейшае для гэтага памешканьне, і калі з гэтым можна будзе даць раду ў Вільні, дык курсы будуць адчынены ужо ў пачатку лютага месяца с. г. У Быдгошчы курсы мелі быць пачатымі з 15-га гэтага студня.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

У соймавых кругох ад нейкага часу ходзяць чуткі, што ў Сойме робяцца новыя спробы стварэньня парлямэнцкага цэнтру, які служыў-бы асноваю будучых зьменаў у урадзе. Ініцыятыва паходзіць ад Хр. Дэмакр. і Пяста. Галоўнымі ініцыятарамі зьяўляюцца нібыто пасол Карфанты і маршалак Сойму Ратай.

На 11-е гэтага студня ў Міністэрстве Прасьветы назначана была нарада выехаўшага ў Варшаву Куратара Віленскага Школьнага Вокругу па пытаньню аб школах нацыянальных меншасьцяў у Віленшчыне.

Праваслаўны мітрапаліт у Польшчы Дзяніс адтрымаў ад п. Прэзыдэнта Рэспублікі па прадстаўленьню Рады Міністраў ордэн „Адраджэньня Польшчы".

Віцэ-прэм'ер п. Тугут склікаў нараду, на якой абгаварвалася пытаньне аб урэгуляваньні выдачы польскіх пашпартоў у ўсходніх ваяводствах. На нарадзе быў віцэ-міністар унутраных справаў п. Смульскі, п. Роман, а таксама прадстаўнікі дэпартамэнту М. Унутр. Спр. Пастаноўлена выдаць рад распараджэньняў аб выкананьні закону аб польскім „абыватэльстве" з мэтаю найхутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё гэтага закону. У бліжэйшым часе ў *крэсовых* валасьцёх будзе зроблена рэестрацыя жыхароў дзеля устанаўленьня іхняе дзяржаўнае прыналежнасьці.

Паміж вольным местам Гданскам і Польшчаю паўстаў конфлікт аб тое, што Польшча арганізавала ў Гданску сваю пошту і вывесіла у месяцы польскія паштовыя скрынкі, якія за адну ноч былі перамалёваны ў нямецкія нацыянальныя колеры. Польскі міністар на м. Гданск п. Страсбургэр злажыў востры протэст Гданскаму Сенату. Справа скончылася перапрашэньнем з боку Сэнату. У мінулую суботу ў Варшаву прыехаў п. Страсбургэр і меў конфэрэнцыю з міністрамі Скржынскім і Тугутам, пасьля адбылося пасяджаньне Палітычнага Камітэту Рады Міністраў, разглядаўшага справу польска-гданскага конфлікту.

Міністар унутраных справаў п. Ратайскі выехаў на ўсходнія *крэсы* з інспэкцыйнымі мэтамі. Аб'езд працягнецца дзён чатыры.

„Kur. Por." паведамляе, што галоўная рада Польскае Соцыялістычнае партыі на сваім пасяджаньні, якое мае адбыцца 17 гэт. студня, займецца, паміж іншым, абгаворам пытаньня аб сваёй пазыцыі да маршалка Пілсудскага.

Савецкія газэты апублікавалі тэкст тэлеграмы пасла Ваяводзкага, высланае на імя сялянскага камуністычнага інтэрнацыяналу, якая зьяўляецца адказам на тэлеграму камуніста Домбаля да незалежнае сялянскае партыі ў Польскім Сойме, пасьля таго, як яна адкалолася ад „Вызваленьня". Тэлеграма мае гэткі зьмест: „Дзякуем за выказаную прыхільнасьць і пажаданьне. Незалежная сялянская партыя дасюль не ўваходзіць у склад ніводнага з сялянскіх інтэрнацыяналаў. Але з свайго боку мы аднак-жа разумеем усю неабходнасьць арганізацыі міжнароднага клясавага сялянскага руху.

## За граніцай.

У **Паўночна - Амэрыканскіх Злучаных Штатах** падаўся ў адстаўку міністар заграпічных справаў Хьюз.

У **Нямеччыне** цягнецца ўрадовы крызыс. Бэрлінскія газэты пішуць, што д-ру Лютэру магчыма што будзе даручана фармаваньне кабінэту. Д-р Лютэр не належыць да ніякае партыі, але блізкі да правага крыла нямецкае народнае партыі. „Berl. Tageblatt" і „Vorwaerts" пішуць, што дэмакраты і соцыяль-дэмакраты станудь у вострую опозыцыю да кабінэту Лютэра.

У **Італіі** опозыцыя аканчальна абвясьціла вайну фашыстаўскаму ураду Мусоліні. Выпушчаны опозыцыяй „маніфэст" востра крытыкуе ўсе хады Мусоліні, абвінавачваючы яго ў парушэньні конституцыі.

У **Югаславіі** йдуць арышты сяброў харвацкае рэспубліканска-сялянскае партыі Радзіча. У м. Сабеніко арыштована больш як 300 сялян.

— У **Бургасе (Баўгарыя)** з 7 на 8-І уночы адбыўся невядомы ўзрыў побач з домам, у якім часова жыве **грэцкі** консуль. Улады загадалі зрабіць энэргічнае сьледзтва.

**Ангельскія** газэты пішуць, што 9. І. савецкі прадстаўнік у **Лёндане** пасьля доўгае размовы з Чэмбэрлэнам выехаў у **Маскву**, каб зрабіць свайму ураду справаздачу аб ангельска-савецкіх адносінах.

З **Гданску** тэлеграфуюць, што афіцэры арміі гэн. Врангеля, якія пражываюць у Гданску, адтрымалі ад прадстаўніка „імпэратара" Кірылы загад зараз-жа выехаць у **Баўгарыю** і зьявіцца ў гэнэральны штаб Врангеля.

Паводлуг вестак з **Лісабону**, партугальскі ўрад пастанавіў юрыдычна прызнаць С. С. Р. Р.

**Румынскі** ўрад заявіў **Францыі** пратэнсію на перадачу яму врангелеўскага расейскага флёту, дзеля таго, што пераведзеныя ў **Маскву** 200 мільёнаў рублёў залатога румынскага фонду, падчас забіраньня нямецка-аўстрыяцкім войскам Букарэшту ў вялікай вайне, дасюль не вернуты бальшавікамі ў Румынію.

З **Масквы** надходзяць весткі, што Троцкі аканчальна зволынены з пасады ваеннага камісара і прэзэса рэвалюцыйна-ваеннае рады. Кандыдатам на гэтыя пасады зьяўляецца як быццам Дзяржынскі.

# Агляд прэсы.

### Водгукі зьезду настаўнікаў у польскай прэсе.

Бадай што ўся польская прэса, асабліва правіцовая, бачыць нейкія „ўплывы з другой стараны". Мыльны гэты погляд паўстаў мо' дзеля таго, што ў адным з апошніх нумароў віленскіх беларускіх аднадзёвак невядомы справаздаўца з настаўніцкага зьезду, кажа, што зьезд заакцэптаваў праграму Школьнае Рады і Беларускага Клюбу.

Гэтак „Rzeczpospolita" ў артыкуле „Wśród białorusinów" піша:

> „Рэзалюцыі зьезду прынятыя на другі дзень не застаўляюць ілюзіяў што да гэтага і ў іх (рэзалюцыях— Рэд.) выразна прабіваецца ўплыў з другога боку".

Папраўляем гэтую памылку. Праграмай Школьнае Рады было і ёсьць палітыкаваць вакол беларускага школьніцтва — праграмай Т-ва „Прасьвета", якое цяпер зьяўляецца адзіным прадстаўніцтвам арганізованага

---

З вялікай злосьці ўвесь дрыжаў, але адыйшоўся і зноў зашчапіўся ў сваім пакоі.

Цішыня зрабілася...

Бязьлепчыха выбегла да суседкі расказаць пра калатню.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Марцін, супакоіўшы сябе чаркаю гарэлкі, адвярцеў завязкі ды паперу, а самы об'ект паклаў на стол.

Была гэта клявіятура, зробленая з дрэва; клявішы, на спружынах, былі зроблены па фасону, якім робяцца яны ў аргане; каб ня стучэлі, дык былі пераклaдзены войлакам.

Марцін прымераў, дзе-б клявіятуру паставіць і знашоў месца: на табурэт паставіў скрынку, на скрынку—клявіятуру і, гэта ўсё пры самай кардоннай загарадцы — сьценцы... Падрыхтаваўшы на драцяной рамцы ноты, Марцін пачаў патэтычна стучэць па клявішах пальцамі... Ні голасу, ні тону, толькі шаптаі моцна...

Нехта стукнуў у дзьверы:

— Ці ты дома, Марцінка? — пачуўся голас Абгрызкі, колегі чыноўніка; Марцін адшчапіў кручок...

Абгрызка быў сыты, адкормлены, і яшчэ жаваў нешта ад абеду.

— Ну пойдзем, браток, служыць! — адазваўся ён, улазячы цяжка ў пакоік. — А што гэта? вучышся іграць? А... а... дзела добрае! чмякаючы хваліў Абгрызка Марціна; той, не гаворачы многа лішняга, сабраўся ў два махі ды за дзьверы — замкнуў, і вышлі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Позна ўвечары гаспадыня прыйшла і лягла на ложку пры сьценцы-загарадцы, што ад пакоіку, задумалася...

Прысутнасьць у Марцінавай скрынцы «чорных кніжак», ды асоба самога чараўніка не давалі ёй спакою...

Раптам скрыпнулі дзьверы... пачуліся крокі .. нехта адамкнуў пакоік Марціна і... там пачаў тупаць узад і ўперад...

— Хто там прыйшоў? — устрывожанна запыталася Бязьлепчыха. Той стаў, не адазваўся, толькі тут-жа, над ейным ложкам, над самай ейнай галавой за загарадкай моцна пачаў шаптаць...

...Чаруе, каб яго! — мігнула ў галаве ейнай.

Выразны шэпт! ускочыла як апараная ды крыжавацца...

.. Пад Тваю абарону...

Калі і пасьля малітвы ў пакоіку нехта ня прыпыніўся шаптаць, дык Бязьлепчыха, накінуўшы хустку на галаву, ўцякла з хаты.

Марцін (гэта быў ён) спакойна, пры сьвятле сьвечкі пазіраў на ноты і ціскаў пальцамі драўляныя клявішы, якія аднатонна шапталі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыйшло першае.

Марцін выехаў на іншую кватэру і ажаніўся; павывозіў з сабой «чорныя кніжкі».

Бязьлепчыха старанна вымела і вымыла пакоік, абкрапіла з бутэлькі «сьвянцонай вадзіцай», але спакою ня прыдбала; ўвечары, здавалася ёй, нехта шэпча праз загарадку над ейным ложкам.

...Казаў чарцей напусьціць, як сварыліся тады!.. З яго ўсё магчыма! Каб ён не радзіўся на сьвет лепш!... — злавала яна і выходзіла да суседкі Будзьчыхі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А. В.

*(Канец будзе).*

